*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 22 (561)** **12 ЧЭРВЕНЯ 2002 г.**

## 900 гадоў першай беларускай святой



5 чэрвеня Беларусь адзначала 900-годдзе з дня народзінаў першай беларускай святой Ефрасінні Полацкай. Асноўныя ўрачыстасці прайшлі ў Полацкім Сафійскім саборы і жаночым Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры. Ва ўрачыстасцях узяў удзел мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт.

**На здымку:** помнік святой Ефрасінні ў Полацку.

## Падведзены вынікі конкурсу

### *“Лепшы рупліўца роднага слова”*

Упраўленне адукацыі Віцебскага аблвыканкаму сумесна з іншымі ўстановамі і арганізацыямі з траўня 2001 г. па травень 2002 года праводзіла конкурс “Лепшы рупліўца роднага слова” у ім актыўны удзел прынялі арганізацыі і суполкі Таварыства беларускай мовы.

29 траўня вынікі конкурсу падведзены на абласной канферэнціі: у актавай зале інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіраўнічых работнікаў, спецыялістаў адукацыі сабраліся настаўнікі, дырэктары школ і дзічячых садкоў, супрацоўнікі абласнога ўпраўлення, гарадскіх і раённых адзелаў адукацыі.

Удзельнікаў канферэнціі віталі вучнёўскія аркестры і ансамблі.

Аляксандр Сягоднік, першы намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі аблвыканкаму падводзячы вынікі конкурсу адзначыў, што яго правядзенне актывізавала творчую дзейнасць педагогаў, па пашырэнні ўжывання беларускай мовы, дапамагло абагуліць цікавы іззмястоўны досвед беларускамоўнага навучання і выхавання.

Аднак трэба зробіць значна болей у пашырэнні беларускамоўнага навучання на шляху ўзыходжання да нацыянальнай школы.

На канферэнціі выступілі педагогі – пераможцы канкурсу, дзяліліся сваімі здабыткамі ў працы, самакрытычна ацэньвалі стан спраў у сферы ўжывання беларускай мовы.

Выказваліся прапановы па стварэнні магчымасці вучыцца на беларускай мове ў вышэйшых навучальных установах Беларусі.

Пераможцы конкурсу атрымалі дыпломы і падарункі – бібліятэчкі кніг на беларускай мове, а таксама відэакасеты досведу лепшых школ, педагогаў вобласці па беларускамоўным навучанні і выхаванні.

Удзельнікі канферэнціі прынялі зварот да педагогаў Віцебшчыны.

***Іосіф Навумчык,***
***старшыня Віцебскай абласной рады ГА ТБМ імя Ф. Скарыны,***




## Ахвяраванні на ТБМ

1. Алеся Манько (Севастопаль) - 10 грыў.
2. Раіса Жук-Грышкевіч (Канада) - 200 кан. дол.
3. Віталь Кажан ЗША - 40 дол. ЗША.
4. Іна Казлоўская (Менск) - 1000 руб.
5. Аляксей Арэшка (Брусель) - 300 еўра.

## Мы пратэстуем супраць ганебнага судзілішча



У Горадні працягваецца мэтанакіраваны і планамерны працэс судовай расправы над рэдактарам зачыненай беларускамоўнай газеты “Пагоня” Міколам Маркевічам і карэспандэнтам гэтай газеты Паўлам Мажэйкам. Мэта працэсу -- засадзіць за краты непахісных журналістаў.

Рэдакцыя газеты “Наша слова” выказвае сваю салідарнасць з пагонеўцамі. Мы не спадзяёмся на беларускае правасуддзе. Мы спадзяёмся на вашую мужнасць і непахіснасць, шаноўныя Мікола і Павел, а таксама на ўсебеларускую і міжнародную падтрымку.

Трымайцеся, хлопцы! Мы з вамі.

***На здымку:*** *Мікола Маркевіч і Павел Мажэйка.*

## 120 угодкі У. Галубка на Баранаўшчыне

15 траўня ў Баранавіцкай Цэнтральнай бібліятэцы імя Таўлая адбылася імпрэза прысвечаная 12-м угодкам нараджэння Уладзіслава Галубка, якую ладзіла мясцовая філія ТБМ пад кіраўніцтвам Віктара Сырыцы.

Была прадстаўлена выстава кніг, а таксама вялікі партрэт слыннага сына баранавіцкай зямлі.

Напачатку імпрэзы Наталля Урублеўская распавяла пра жыццёвы шлях і дзейнасць У. Галубка, пасля прысутным быў паказаны фрагмент яго драмы “Бязродны” ў выкананні тэатральнай трупы пад кіраўніцтвам Міхася Стрыжова. (Гэтая ж сцэнка была ў той жа дзень паўторана і ў сярэдняй школе мястэчка Новая Мыш).

Для прысутных была праведзена бліц-віктарына з гісторыі беларускага тэатра. Пасля былі падведзены вынікі гарадской віктарыны, што абвесціла мясцовае ТБМ месяц таму.

Пераможцамі сталі вучні Ляснянскай СШ – гістарычны гурток “Спадчына” пад кіраўніцтвам Пакінене Галіны Уладзіміраўны, вучні краязнаўчага гуртка Крашынскай СШ, вэтэран Узброеных сілаў Шастак Міхаіл Максімавіч і вучні Баранавіцкага ліцэю № 1 – Лазарчык Уладзімір і Веліч Зміцер.

Напрыканцы імпрэзы адбыўся канцэрт беларускай песні.

Прысутнічала больш за 100 чалавек – у зале не хапала месца для ахвотных, былі і госці з Менска і Нясвіжа.

Вечарам а 19 гадзіне ў Ляснянскім клубе, на радзіме У. Галубка адбыўся канцэрт, дзе выступілі баранавіцкія і мясцовыя гурты, а ладзілі яго Баранавіцкая ТБМ і раённы аддзел культуры.

***Равяка Руслан.***

***Шаноўны спадар Трусаў!***

*Пад Вашым патранажам выходзіць вось такая брыдота з назвай "Наша слова". Газету нельга чытаць: памылка на памылцы і памылкай паганяе. Плюс прымітыўная вёрстка, жахлівыя па якасці здымкі і матэрыялы, далёкія ад мовазнаўства. Меў рацыю Барыс Сачанка, калі пісаў калісьці, што "беларускае – сінонім усяго недарэчнага". Далібог, "на заре советской власти" газеты выдаваліся куды цікавейшыя, чым цяпер, на пачатку XXI стагоддзя.*

*Няўжо нельга наладзіць выпуск сапраўды цікавага і пісьменнага выдання для тых, хто любіць і шануе роднае слова?*

*Каб змагацца за распаўсюджанне беларускай мовы, за нацыянальнае адраджэнне, трэба гэтую мову ведаць, вучыць яе і падказваць іншым, як ужываць яе. А павярхоўнасць і, так бы мовіць па-руску, "вопиющая безграмотность" толькі шкодзіць агульнай справе.*

*З павагай,* ***Аляксандр Лаўранюк, г. Івацэвічы.***

# Усім прытрывалася!

***Адказ на ліст чытача "Нашага слова" сп. Аляксандра Лаўранюка***

Шаноўны Аляксандр!

Вы, мабыць, чулі вельмі сумную анекдотку пра беларуса, пра ягоную неймаверную вытрываласць.

*...Нейкія зламыснікі павесілі аднаго разу братку-беларуса. З-за чаго павесілі – невядома. Мабыць, проста так, з-за ягонай талерантнасці... Праз нейкі час прыйшлі тыя зламыснікі да шыбеніцы, каб зняць таго беларуса і пахаваць. Пачалі здымаць, а той жывы, дыхае! Дзівяцца душагубы: як гэта так –-гэтулькі вісеў і жывы! Пытаюцца, як яму было?*

*- А нічога! – адказвае той. – Спачатку балела, ціснула, а пасля нічога – прытрывалася!*

От гэтай сумна трагічнай анекдоткай я і адказваю на ваш ліст. Слова "ваш" у зваротку да вас з вашае ж парады пішу з маленькай літары. Так што асабліва не крыўдуйце. Але не пра гэта мова. Гэта між іншым, да слова. Галоўнае ж – пра пісьменнасць нашае газеты!

Пра ўсё, што вы напісалі, ведаем, пакутуем! Ведаем, якая мова гучыць і з эфіру радыё і тэлевізіі. Гэта ўсё сведчыць, што ў краіне агульнае занядбанне мовы. Дзяржаўнага клопату ў краіне пра яе амаль няма. Вы, напэўна, ведаеце, што дзяржава адраклася, адмовілася ад нашай газеты, і яна от ужо колькі гадоў выходзіць за межамі сталіцы на ахвяраванні яе чытачоў. У газеце адзін толькі штатны працаўнік – яе самаахвярны рэдактар, і ён не ў стане ўсачыць за кожнай літаркай, за кожнай коскаю.

Мы не апраўдваемся! Мы хочам, каб вы зразумелі становішча, у якім жыве газета. А становішча гэтае, як у таго беларуса, што павесілі: "спачатку балела, а пасля прытрывалася". Прытрывалася чуць па радыё: ***"дзякаваць іх"*** (трэба – ***"дзякаваць ім"***; ***"у нашай рэспубліке"*** – правільна ***"у нашай рэспубліцы"***. З эфіру гучыць: ***"два чалавека"***, ***"тры атамабіля"***. Па-беларуску ж трэба ***"два чалавекі, тры аўтамабілі"***. З эфіру чуем: ***"жаніцца на ёй"***, ***"смяяцца над ім"***, а трэба ж ***"жаніцца з ёй"***, ***"смяяцца з яго"***. І гэтае "прытрыванне" цягнецца з году ў год, але кожнае такое "прытрыванне" – гэта боль душы. На жаль, няма ў краіне пакуль таго лекара, да якога можна было б звярнуцца, каб боль гэты хоць трошкі зменшыць. Ёсць у нас інстытут мовазнаўства. Але ён маўчыць! Маўчаць амаль усе універсітэцкія моўныя кафедры! Маўчыць урад! Маўчаць міністэрствы культуры і асветы!

Усім ўсё прытрывалася! У краіне больш моўных канавалаў, чым лекараў. Як нам падаецца, вы адзін з іх. Ліст ваш, хоць і слушны, але незычлівы, зняважлівы. Галоўны ваш клопат, як вынікае з ліста, не дапамагчы шчыра газеце, а зняважыць, зняславіць, адмахнуцца ад яе. Вось першы сказ з вашага ліста: *"Шаноўны спадар Трусаў! Пад вашым патранажам выходзіць вось такая брыдота з назваю "Наша слова"*. Дастаткова аднаго толькі гэтага сказа, каб усумніцца ў вашым шчырым паімкненні паспрыяць нашай газеце. Яна ўдражняе вас сваёй сутнасцю. Вы цытуеце Барыса Сачанку, а для чаго? Для каго? Што вы гэтай цытатай хацелі дасягнуць? А калі Сачанка і казаў такія словы, то не ад самога сябе, а ад імя такіх, як вы, каб мацней выцяць гэтых беларусаў, якім стагоддзямі ўбівалі ў галаву, што яны непаўнацэнная, недаразвітая нацыя. Хіба ж не так? Самому ж Барысу Сачанку з школьных гадоў смылела душа ад нацыянальных зняваг. Ваш ліст невялікі – усяго на адну рукапісную старонку, але вы, без патрэбы на гэта, перасыпалі яго рускамоўнымі "ўдвукоссяннямі": *"на заре советской власти"*, *"вопиющая безграмотность..."* Навошта? Вы, што – і нам раіце так пісаць у нашай газеце? А хіба немагчыма было гэта ўсё перадаць сродкамі роднае мовы?! Трэба было толькі падумаць! Але вам не захацелася! Паленаваліся!

Калі вы шчыра хочаце дапамагчы "Нашаму слову" – дапамажыце. Ахвяруйце хоць якой тысячай рублёў, напішыце, што вас хвалюе ў нашай моўнай гаспадарцы, на якія пытанні вы хацелі пачуць адказ у нашай газеце. А от вам і нашае першае даручэнне. Пра наша віншаванне ***"З святам вясны, беларусачкі!"*** вы пазначылі: "Вельмі прымітыўна". Калі ласка, прапануйце свой варыянт, калі ён будзе лепшы – надрукуем. Што да прыназоўніка ***"з"*** ці ***"са"***. Наша гістарычная моўная практыка з прыназоўнікам ***"з"*** ідзе аж з "Статута літоўскага". Раю пачытаць у "Родным слове" за 1991 год № 9 адпаведнае даследаванне. Пашырэнне прыназоўніка ***"са"*** ідзе з рэформы 1933 года. А дагэтуль пераважна пісалі "з" – з сваім, з шчырасцю і г.д. Згадаем колькі прыкладаў.

***...Трэба з сталі каваць гнуткі верш. (М. Багдановіч)***

***...З шчасцем на вас азірніся. (П. Багрым)***

Паўтаруся: мы не апраўдваемся! Якое тут можа быць апраўданне! Святая святых выдаваць пісьменныя кнігі, газеты!. Гэта клопат усёй беларускай грамады, усёй беларускай дзяржавы. На жаль, тонус гэтага клопату за апошнія гады ў краіне моцна пахіснуўся. Таму такія і вынікі...

Спрактыкаваныя рэдактары і стылісты кажуць: каб друкаванае выданне выйшла бе памылак, яго павінна прачытаць не менш як пяць пар вачэй і абавязкова з карэктарам. А ў "Нашага слова", на жаль, адна толькі асоба: ён і рэдактар, ён і стыліст, ён і карэктар. На больш у Таварыства няма сродкаў, а дзяржава, паўтаруся, адраклася цалкам спрыяць адзінай на Беларусі газеце пра мову. То ці не лепей напачатку пра гэта гаварыць!

От у такіх варунках і жыве "Наша слова". Але яно ўсё роўна наша, якое яно ні было б!

Гэтак, як і ў маці, - якое дзіця яе не было б: хворае, скалечанае, але яно ўсё роўна яе, ёй дарагое, яе крывінка. Так і нам "Наша слова".

Шчыра

***Уладзімір Содаль,***
***сябра рэдакцыйнай калегіі "Нашага слова".***

# Пра хвалю і пену

***Бог даў беларусам граматыку з аднаго правіла: "Як чуецца, так і пішацца".***
***Чорт дадаў выключэнні і асаблівасці напісання іншамоўных словаў.***

*У нумары "Нашага слова", які так жорстка скрытыкаваў Аляксандр Лаўранюк з Івацэвічаў, абазваўшы яго брыдотай, ён знайшоў шэсць граматычных памылак. Мнагавата, але не трагічна. Тым больш, што, сапраўды, мы не маем магчымасці ні наняць карэктара, ні прыцягнуць да вычыткі "свежую галаву". Усе астатнія прэтэнзіі тычацца стылю і неадпаведнасці газеты нейкай энцыклапедыі. У прыватнасці, сп. Лаўранюк не згодны з напісаннем* ***Менск, Берасце, Ворша, Наваградак, Горадня, гарвыканкаму, Старшыня.*** *Астатнія заўвагі кшталту:* ***"дубовая мова", "інфармацыя напісана неахайна па-вучнёўску", "загаловак недарэчны"*** *і г. д. "Недарэчны загаловак" артыкулу даў сябар Саюза пісьменнікаў, аўтар каля дзесятка кніг. Ну што з яго возьмеш, мабыць спісаўся. Матэрыял напісаны па-вучнёўску сапраўды даслала студэнтка 2-га курса БДУ культуры. Нюх нашага крытыка не падвёў. Ні для кога не сакрэт, што ў кожным нумары ў нас адзін-два студэнцкія матэрыялы. Гэта прынцыповая пазіцыя газеты. Друкавалі і друкаваць будзем, не гледзячы на ўсе хібы і крытыку, бо гэтыя студэнты - будучыня Беларусі...*

*На гэтым, я думаю, мы абавязаны падзякаваць спадару Лаўрынюку, прынамсі за тое, што ўважліва чытае нашую газету, і запэўніць, што ніхто ў рэдакцыі на яго не пакрыўдзіўся і не пакрыўдзіцца за іншую крытыку, як не крыўдзіцца конь, што цягне плуг, на авадня. Хай гудзе, хай кусае, а араць жа трэба. Але ліст спадара Лаўрынюка штурхнуў да гаворкі на іншую тэму.*

Як адносіцца да тога, што адны газеты пішуць ***Менск, Наваградак***, іншыя - - ***Мінск, Навагрудак***, слоўнікі даюць слова ***"маятнік"***, а "Матэматычная энцыклапедыя" падае слова ***"ківач"***, у адной з публікацый у "Нашай ніве" замест слова ***"балкон"*** ужыта ***"кадоўбец"***, а Уладзімір Арлоў замест слова ***"прыходжая"***, якое ніколі не ўжываецца ў жывой мове, уводзіць надзвычай прыгожае і яснае, зручнае для вымаўлення слова ***"вітальня"***? Як разумець тое, што доктар філалагічных навук Павел Сцяцко выдае кнігу за кнігай, дзе даказвае правамернасць ужывання ўласнабеларускіх моўных формаў, якія, аднак, ніяк не адпавядаюць афіцыйным слоўнікам? Як гэта ўсё прымаць, як да гэтага адносіцца? Трэба гэта падтрымліваць, ці трэба з гэтым змагацца?

У давяршэнне нельга не згадаць, што акрамя правапісу, якім пішуцца гэтыя радкі ў Беларусі даволі шырока ўжываецца правапіс і, нават, маўленне "тарашкевіцай", дакладней многімі "псеўдатарашкевіцамі". Што рабіць з гэтым? Зноў змагацца супраць ці зноў прапагандаваць?

**Што ж, мабыць час пачынаць адказваць на пастаўленыя пытанні.**

З гэтай нагоды звернемся да нашага эпіграфа. Ні ў кога ў Беларусі не ўзнікае пытанне, як пісаць словы ***зямля, хлеб, хата, неба, галава*** і г. д. Не ўзнікае таму, што гэта спрадвечныя беларускія словы ў напісанне якіх ніхто не ўмяшаўся, і напісанне якіх цалкам адпавядае Божай граматыцы з аднаго правіла: "Як чуецца, так і пішацца".

Праблемы пачынаюць узнікаць, калі мы спрабуем уводзіць у мову іншамоўныя словы, або калі пачынаем падганяць беларускія словы пад чужамоўны правапіс. Беларускую мову калечылі 60 гадоў, набліжаючы яе да рускай, але 60 гадоў рос і ўнутрынацыянальны пратэст супраць гэтага калецтва, які, як скручаная спрунжына з пачатку 90-х гадоў пачаў адкручваць назад працэс русіфікацыі беларускай мовы. Пачалося масавае вяртанне спрадвечных беларускіх словаў і словаформаў, якое ў многіх выпадках перарастае ў натуральную словатворчасць, больш ці менш радыкальную, больш ці менш удалую. Гэты пратэст вяртае нам ***Менск, Наваградак*** і г. д., назвы, якія былі спаланізаваны, зрусіфікаваны і навязаны беларусам у іншамоўным гучанні і напісанні. Гэты пратэст змушае вышукваць у народнай мове, у гістарычных крыніцах беларускія адпаведнікі розным замежным тэрмінам. Разам з тым, колькі не перачытвай хоць жніўныя песні, хоць вясельныя, там не знойдзеш адпаведніка слову ***"кампутар"***, а ў "Статуце Вялікага княства..." не вычытаеш слова ***"сайт"***. Таму непазбежна або ўвядзенне іншамоўных словаў, або фармаванне наватвораў. І што тут больш прыймальна ніхто адразу адказаць не зможа. Калі мы можам замяніць слова ***"рэжэкцыя"*** словам ***"выразанне"***, то словазлучэнне ***"рэжэктарны фільтр"*** мы можам падаць, як ***"выразальны фільтр"*** і толькі. Слова ***"фільтр"*** мы можам змяніць толькі на ***"фільтар"*** і не больш. А наколькі гэта мэтазгодна. Зноў жа, адразу адказаць немагчыма.

У 1966 годзе ў Сейлавіцкую сярэднюю школу прыйшлі дзеці з Андрушоўскай пачатковай школы. Яны на пенал гаварылі ***"карытца"***. Па сутнасці гэта было правільна, але гэтае ***"карытца"*** знікла ў першы ж дзень. У карыстанні засталося слова ***"пенал"***. Гэта была натуральная, нікім не справакаваная селекцыя. І такіх прыкладаў мноства.

Таму для адэптаў жорсткага трымання за слоўнікі і энцыклапедыі хачу параіць наступнае:

**1.** Трэба зразумець што па Беларусі коціцца хваля моватворчасці. Мова вырвалася з клеткі савецкіх слоўнікаў. Журналісты, пісьменнікі, рэдактары, стыльрэдактары займелі поўную моўную свабоду і карыстаюцца гэтай свабодай, хто на колькі здольны. У тых, хто слаба валодае мовай, гэтая свабода выліваецца ў трасянку. У знаўцаў мовы гэтая свабода вядзе да ўсё большай разнастайнасці масіву словаў і словаформаў.

**2.** Трэба ўсвядоміць, што, як кожнай хвалі спадарожнічае пена, так і хвалі беларускай моватворчасці спадарожнічае пена няўдалых, недасканалых наватвораў і словаформаў, словаў-аднадзёнак, радыкалізмаў, гістарызмаў і г. д.

**3.** Трэба не пужацца, не пратэставаць супраць кожнага новага слова, ці новага напісання, а вітаць сам працэс моватворчасці. Удалыя словы, ці свае, ці запазычаныя ўвальюцца ў мову і зробяць яе яшчэ больш гнуткай і жывучай, няўдалыя ападуць, як тая пена, і забудуцца. Зноў жа, што знікне запазычанне ***"пенал"*** ці роднае ***"карытца"***? У 60-х знікла ***"карытца"***, як будзе ў 21-м стагоддзі, толькі час пакажа.

**4.** Адзінае, за чым трэба сачыць і да чаго імкнуцца, гэта каб усе новыя словы і словаформы прайходзілі адаптацыю беларускай граматыкай. Тады не будзе пытання, як пісаць ***"прэзідыум"*** ці ***"прэзідыюм"***, ***"сімпозіум"*** ці ***"сімпозіюм"***, ***"радыус"*** ці ўсё ж ***"радыюс"***.

У свой час мы пазбавіліся ад асаблівага напісання рэвалюцыйных словаў ***"совецкі"***, ***"комуніст"*** і г. д. Настаў час пазбавіцца ад выключэнняў і асаблівага напісання іншамоўных словаў, а заадно і вылечыць скалечаныя русіфікацыяй беларускія словы. Тады чортавая складовая ў нашай граматыцы будзе зведзена да мінімуму, і беларусы нарэшце займеюць адзіную агульнанацыянальны правапіс, прыдатны ўсім. А кожнае новае слова будзе ўзбагачаць мову, а не засмечваць яе.

***Станіслаў Суднік.***

*Да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы.*
*Да Міжнароднага дня абароны дзяцей.*

# "Моладзь ідзе..."

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы працягвае цыкл мерапрыемстваў "З Купалам у сэрцы". 2002 год – юбілейны, сёлета грамадскасць нашай краіны шырока адзначае 120-годдзе з дня нараджэня народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, па рэспубліцы праводзіцца шэраг мерапрыемстваў.



31 траўня гасцінны Дом Купалы сабраў аматараў прыгожага мастацтва. Музей наладзіў конкурс малюнка на асфальце пад назвай "Ой ты, маё сонца, як жа свеціш ясна!" сярод дзяцей 6-10 гадовага ўзросту, прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і да Міжнароднага дня абароны дзяцей.

Песняй "Прывітальнай" сустрэў гасцей фальклёрны ансамбль "Мілавіца" Цэнтра пазашкольнай работы Кастрычніцкага раёна г. Менска (мастацкі кіраўнік Марыя Снітко, акампаніятар – Барыс Яўгенаў). У ганаровае журы конкурсу ўвайшлі: галоўны спецыяліст па культуры Адміністрацыі Цэнтральнага раёна г. Менска Іна Пяцелька; дараваны ўрач Беларускага дзіцячага фонду Лідзія Літвіновіч; мастак, сябра Беларускага саюза мастакоў, узнагароджаны медалём Ф. Скарыны Аляксей Марачкін; паэт, акцёр, рэжысёр Сяргей Патаранскі, мастак Дзяніс Барсукоў.

Дзеці з задавальненнем ўдзельнічалі ў конкурсе, а гэта значыць, што было жаданне дакрануцца душой і сэрцам да неўміручай Купалавай паэзіі, невычэрпнай крыніцы натхнення. 162-м удзельнікам былі ўручаны эмблемы конкурсу, дзе дзеці пазначылі свае імя, а таксама камплект каляровай крэйды. Конкурс праходзіў на тэрыторыі Парка імя Янкі Купалы.

У працэсе конкурсу вучні прадэманстравалі веданне гісторыі нашай краіны, жыцця і творчасці Янкі Купалы. Свае малюнкі маладыя творцы прысвяцілі нашай краіне, роднай мове, гістарычным асобам і падзеям, Купалаўскім мясцінам, беларускім пейзажам, героям твораў Янкі Купалы і самому паэту.

Журы адабрала 25 адметных малюнкаў. Пераможцы конкурсу атрымалі мяккія цацкі, фотаальбомы, нататнікі, каляровыя алоўкі, асадкі, кніжкі і іншыя прызы. Малюнкі Вольгі Дзівак і Дзмітрыя Краўцова былі адзначаны спецыяльнымі прызамі – альбомамі творчай суполкі "Пагоня", якія ўручыў Аляксей Марчкін. Ніхто не застаўся без падарункаў – усе ўдзельнікі атрымалі памятныя сувеніры. Фундатарамі конкурсу выступілі Беларускі дзіцячы фонд, Адміністрацыя Цэнтральнага раёна г. Менска, Беларускі саюз мастакоў у асобе Аляксея Марачкіна і Міжнародны фонд Янкі Купалы. Адбылося сапраўднае свята нашай культуры, якога нам часам так не хапае.





Менавіта моладзь у трэцім тысячагоддзі павінна павялічыць духоўныя скарбы беларускага народа.

*Дзіяна Кавалевіч, старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы.*
*Фота Сяргея Лук'янава.*

# Зварот

**Таварыства беларускай мовы да сусветнай супольнасці з нагоды катастрафічнага становішча ў сферы нацыянальнага тэлевяшчання ў Рэспубліцы Беларусь**

Непрафесійная і недальнабачная палітыка беларускіх уладаў у галіне нацыянальнага тэлевяшчання стала асабліва відавочнай для мільённай аўдыторыі заўзятараў спорту падчас чэмпіянату свету па адной з самых папулярных у народзе гульняў – футболе. Па віне ўладных структур краіны цэлая нацыя ў цэнтры Еўропы была пазбаўлена магчымасці быць сведкамі спартыўных падзей у Японіі і Карэі. Гэта сталася лагічным вынікам шматгадовай дзейнасці ўладаў, накіраванай на знішчэнне нацыянальнага тэлевяшчання.

Так, у шматнацыянальнай Беларусі 97% тэлетрансляцый ажыццяўляюцца на рускай мове. У той час, як 73,6% грамадзян дзяржавы падчас перапісу насельніцтва 1999 года назвалі сваёй роднай мовай беларускую. У інфармацыйнай прасторы краіны бязмежна ўладараць тэлекампаніі Расійскай Федэрацыі. А Нацыянальная тэлерадыёкампанія Беларусі мэтанакіравана скарачае час вяшчання на беларускай мове. Сёння беларускія дзеці пазбаўлены магчымасці глядзець дзіцячыя перадачы, мультфільмы і фільмы на роднай мове. Такім чынам ствараюцца ўмовы, калі маладое пакаленне не чуе ў тэлеэфіры роднай мовы. Ужо зараз менш за 30% дзяцей карыстаецца беларускай мовай, што вядзе да яе знікнення.

У той час тэлеканал EUROSPORT вядзе трансляцыю адначасова на 18 еўрапейскіх мовах, і 96% гледачоў маюць магчымасць атрымліваць інфармацыю на роднай мове. Беларусы ж з прычыны абсурднай дзейнасці ўладаў краіны пазбаўлены папулярнага ва ўсім свеце відовішча на сваёй роднай мове.

Таварыства беларускай мовы звяртаецца да міжнародных структур і просіць:

- Арганізацыю аб'яднаных нацыяў па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (UNESCO) у рамках распачатага сумеснага праекта з міжнародным тэлеканалам Discovery Channel – пазнаёміць сусветную грамадскасць з праблемай аховы культурнай спадчыны і мовы беларусаў, якая знаходзіцца на мяжы знікнення;
- кіраўніцтва міжнародных спадарожнікавых каналаў EUROSPORT, EuroNews, Discovery Channel – разгледзець магчымасць арганізацыі вяшчання і на беларускай мове;
- Еўрапарламент, Еўрапейскую камісію, Савет Еўропы, Еўрапейскі інстытут сродкаў масавай інфармацыі ды іншыя еўрапейскія структуры - разгледзець праект шэрагу грамадскіх арганізацый Рэспублікі Беларусь аб стварэнні ва ўмовах існай манаполіі беларускіх уладаў на электронныя сродкі масавай інфармацыі беларускамоўнага спадарожнікавага грамадскага тэлевяшчання.

Беларускі народ, як цывілізаваны еўрапейскі этнас, павінен мець права на свабодны доступ да інфармацыі, карыстацца ўсімі дасягненнямі цывілізацыі і спазнаваць культуру іншых народаў праз родную беларускую мову!

**Сакратарыят ТБМ.**
**6 чэрвеня 2002 г.**

# Дзякуй "Кірхмедыя" за беларускую мову на футболе

**Паводле кантракту паміж "Белтэлерадыёкампаніяй" і кампаніяй "Кірхмедыя" на трансляцыю футбольных матчаў з чэмпіянату свету беларускія каментатары маюць права агучваць гульні толькі на беларускай мове.**

**Што ж, самі не можам, то можа немцы навучаць нашае тэлебачанне роднай мове.**

# Гурт «Ветах» у Вільні

У Таварыстве Беларускай Культуры адбылася сустрэча з фальклёрным калектывам "Ветах" з Менска. Удзельнікам усяго па 14-16 гадоў, нягледзячы на юны ўзрост, артысты на сцэне адчуваюць сябе ўпэўнена, добра, прафесійна падрыхтаванымі. Яны ў Вільні выконвалі фальклёрныя песні, вадзілі карагоды. Усе ў нацыянальных строях, толькі ў адной дзяўчынкі – падарунак ад бабулі, а астатнія шылі самі, вывучаючы традыцыі свойго народа, тэхніку вышыўкі: Тут юныя ветахаўцы (Сяржук Ванька, Дзіна Клебановіч, Вольга Чыгіна, Юля Карчагіна, Хрысціна Малючэнка) пазнаёміліся і пасябравалі з вучнямі літоўскай школы. Сапраўды, дзецілепшыя дыпламаты. Пасля канцэрту – сумесная вандроўка па старажытнай Вільні.

Кіраўнікі гурта "Ветах " Вячаслаў Калацэй і Таццяна Пладунова.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

# Час прыйшоў шанаваць...

Гэтыя словы невыпадкова вынесены ў загаловак. Яны з песні, прысвечанай слаўнай бітве пад Воршай, пра якую ў 1910 годзе пісаў Вацлаў Ластоўскі ў "Кароткай гісторыі Беларусі". Песня ў выкананні вядомага барда Кастуся Герашчанкі гучала на прэзентацыі кнігі Вацлава Ластоўскага "Бяздоннае багацце", якая адбылася 11 красавіка ў сталічным Палацы дзяцей і моладзі. Яе наладзіў клуб беларускай сям'і "Сябрына". На сустрэчу прыйшла вучнёўская і студэнцкая моладзь, выкладчыкі, мастакі. Распачала і вяла рэй кіраўнік клуба "Сябрына" Ірына Марачкіна. Укладальнік і аўтар прадмовы да кнігі "Бяздоннае багацце", гісторык літаратуры Язэп Янушкевіч пазнаёміў прысутных з асноўнымі вехамі жыцця слыннага адраджэнца, згадаў трагічную старонку лёсу, калі Вацлаў Ластоўскі, даверыўшыся савецкай прапагандзе, стаў ахвярай бальшавіцкіх рэпрэсій. У 1927 годзе ён вяртаецца з Коўна ў БССР, нейкі час працуе ў Інбелкульце і дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея. Арыштаваны ў 1930 годзе, у красавіку 1931 года асуджаны на 5 год высылкі ў Саратаў. Паўторна арыштаваны 20 жніўня 1937 года ўпраўленнем НКУС Саратаўскай вобласці і праз пяць месяцаў катаванняў як "агент польскай выведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі" 23 студзеня 1938 года расстраляны. Такіх, як Вацлаў Ластоўскі, - нашаніўцаў - адраджэнцаў - была жменька, але яны заклалі трывалы падмурак новай беларускай літаратуры на пачатку XX стагоддзя.

Мастачка Галіна Хінка-Янушкевіч, жонка Язэпа Янушкевіча, распавяла аб працы над мастацкім афармленнем кнігі "Бяздоннае багацце". Афармляць кнігу было цяжка – творчае рашэнне не адразу было знойдзена. Выйсце знайшла праз нацюрморты, імкнучыся паставіць сябе на месца Ластоўскага. Мастачка хацела ўявіць, як ён мог бачыць, адчуваць тагачасную беларускую рэчаіснасць.

Мастак Аляксей Марачкін павіншаваў прысутных з выхадам кнігі і, адзначыўшы творчую ўдачу калегі Галіны Хінкі-Янушкевіч, прыгадаў, што ў 70-ыя гады, клі хадзіў сцежкамі мастака Язэпа Драздовіча, яму выпадкова трапіла ў рукі "Кароткая гісторыя Беларусі" Вацлава Ластоўскага. Яна адкрыла яму і яго сябрам сапраўдную беларускую гісторыю.

Хараша аздаблялі прэзентацыю студэнткі Тэхналагічнага універсітэта Марыя Неўдах і Алена Тарасевіч, якія па-мастацку чыталі творы В. Ластоўскага.

Бард Кастусь Герашчанка выканаў некалькі сваіх песень на гістарычна-патрыятычную і лірычную тэматыку, якія вельмі спадабаліся ўдзельнікам.

На прэзентацыі была магчымасць набыць кнігі В. Ластоўскага "Бяздоннае багацце" і Я. Янушкевіча "Неадменны сакратар Адраджэння", узяць у Галіны Хінкі-Янушкевіч і Язэпа Янушкевіча аўтографы.

Сустэча пакінула ў прысутных самыя лепшыя ўражанні, пазнаёміла з малавядомымі старонкамі роднай літаратуры і гісторыі.

*Алесь Чэчат, выкладчык Менскага педагагічнага каледжа № 1.*

Весткі з Віленшчыны

# Абяцанкі – цацанкі, а радасці няма

У хуткім часе (менавіта 23.04.2002) пасля ўсталявання Мемарыяльнай Дошкі Ф. Багушэвічу ў Свіранах ТБМ Віленскага краю звярнулася ў Камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў пры СМ Рэспублікі Беларусь з просьбай аказаць нам дапамогу набыцця для Савічунска-Свіранскага цэнтра беларускай мовы і культуры сцэнічных строяў і кніг на роднай мове для бібліятэкі ў Савічунах, якая будзе насіць імя Ф. Багушэвіча.

І вось за подпісам старшыні С.І.Бука атрымалі такі несуцяшальна адказ: "... набыць іх за бюджэтны кошт і перадаць таварыству ў цяперашні час магчымасці, на жаль, не маем".

Тут трэба дадаць наступнае, што яшчэ ў 1998 г. па гэтым пытанні ТБМ звярталася ў Дзяржаўны камітэт гэтага ведамства і вось што напісаў старшыня А.М.Білык: "...Адначасова прапануем унесці просьбу аб набыцці сцэнічных строяў для мастацкай самадзейнасці ў заяўку Згуртавання бел. арганізацый у Літве на 1999 г. Пасля гэтага яна будзе ўлічана ў поўным аб'ёме." *(Канец цытаты)*. Кожны год мы гэта рабілі; але Прэзідэнт Згуртавання Л. Мурашка сцвярджае, што Дзяржаўны камітэт не выконвае сваіх абяцанак.

Кажуць што "абяцанага тры гады" чакаюць. Вось мы і чакалі, але прайшло ўжо амаль 4 гады, а зрухаў няма. Выходзіць так, што абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць. Радасці ніякай і нікому няма. Узнікае пытанне: "Навошта абяцаць?. Білык, Бука, Мурашка ці хто іншы? А можа сістэма, якая вядзе да збяднення краіны?

Сорамна вам спадары-чыноўнікі! Але сорам не дым, вочы не выесць. Можа і так.

***Юры Гіль.***

*P.S.* Адно суцяшае, што чыноўнікі пішуць на роднай мове і за гэта ім ужо: "Дзякуй".

# Партрэт віленчука

## Да 80-годдзя з дня нараджэння Лявона Луцкевіча

Невялікая кніжка з вокладкай колеру чырвонай цэглы, з якой збудаваныя віленскія гатыцкія касцёлы Св. Мікалая, Бернардынаў і цуда віленскай готыкі – касцёл Св. Ганны. "Вандроўкі па Вільні" – гэта не проста вандроўкі па старажытным горадзе, гэта вандроўкі па беларускай Вільні. У гэтым шматнацыянальным горадзе кожны мае сваю Вільню: літоўцы – сваю, расейцы і палякі – сваю, яўрэі – сваю – Паўночны Ерусалім. А беларускую Вільню адкрыў і паказаў аўтар "Вандровак па Вільні" Лявон Луцкевіч...

Лявон Луцкевіч – карэнны вілянчук – нарадзіўся ў Вільні 17 сакавіка 1922 г., вучыўся ў легендарнай Віленскай Беларускаай Гімназіі, затым у Тэхнічнай школе. Пасля арышту бацькі, Антона Луцкевіча, увосені 1939 г. пераехаў са старэйшым братам Юркам у Коўна, дзе "хлопцаў" падтрымоўваў Клаўдзі Душэўскі, вядомы літоўскі архітэктар і беларускі культурна-грамадскі дзеяч. У Коўне Лявон закончыў тэхнічную школу і здабыў спецыяльнасць электрыка.

З 1941 да 1942 г. браты Лявон і Юрка настаўнічалі ў 8-гадовай школе ў Радашковічах, а з 1942 да 1944 г. Лявон быў дырэктарам Сярэдняй мастацкай школы ў Баранавічах, дзе, а таксама ў Медычнай школе, выкладаў беларускую мову і літаратуру. Ягоныя колішнія вучні ўспамінаюць свайго настаўніка, які не толькі знаёміў іх з роднай літаратурай, але і многім паказаў шлях да Беларусі.

Арыштаваны ў 1945 г., асуджаны на 15 гадоў лагераў, ён прайшоў "дарогу па муках" ад Менскай "амерыканкі" да капальняў золата ў пасёлку імя Матросава на далёкай Калы-ме. Звольнены ў 1956 г., пражыў на Калыме яшчэ год разам з братам – іхняя сустрэча пасля 10-гадовай разлукі была сапраўдным цудам – і ў 1957 г. вярнуўся ў родную Вільню. Працаваў па спецыяльнасці, у тым ліку больш за 20 гадоў намеснікам галоўнага энергетыка завода ЖБК-3. Аднак работа задавальняла толькі матарыяльныя патрэбы. І ён пачаў збіраць матарыялы пра дзяцьку і бацьку – Івана і Антона Луцкевічаў, пра Віленскую Беларускую Гімназію, пра Беларускі Музей ім. І. Луцкевіча, пра Базыльянскія муры, у якіх месціліся названыя беларускія ўстановы. І, мусіць, ад Базыльянскіх муроў, гэтага цэнтра беларускасці ў міжваенныя гады, пачалося ягонае зацікаўленне беларускай Вільняй. Ён пачаў збіраць весткі пра беларускія арганізацыі і ўстановы, выдавецтвы, кнігарні, друкарні, рэдакцыі газетаў і часопісаў. Шукаў у Вільні слядоў беларускіх дзеячоў – ад часоў ВКЛ да 1944 г., знаходзіў адрасы мясцінаў, звязаных з беларускім адраджэнцкім рухам, магілы беларускіх дзеячоў на старажытных могілках Росы і на Еўфрасінеўскіх могілках.

Збіраў ён гэтыя матарыялы з думкаю пра будучую кніжку, а пакуль што час ад часу пісаў асобныя артыкулы. Аднак першы артыкул Лявона Луцкевіча "Базыльянскія муры" за подпісам Лявон Крывіцкі з'явіўся ў беластоцкім беларускім календары толькі ў 1985 г. У 1992 г. скарочаны варыянт "Вандровак" быў апублікаваны ў часопісе "Нёман" (на расейскай мове), яшчэ адзін кароткі артыкул "Старажытная Вільня – беларуская Вільня", ілюстраваны фатаздымкамі аўтара, быў надрукаваны ў часопісе "Беларусь". А яшчэ былі перадачы "Вандроўкі па Вільні" на радыё "Свабода" і на Літоўскім радыё. А яшчэ – экскурсіі, якія для гасцей Вільні, як з Беларусі, так і з далёкага замежжа, вадзіў Лявон Луцкевіч. Ягоны аповед пра горад, пра беларускія мясціны ў ім быў жывы, эмацыйны, аснованы на глыбокіх ведах. Гаварыў ён свабодна, на чыстай беларускай мове. Пасля адной такой экскурсіі кіраўнічка хору з польскага горада Вроцлава праф. Краснадэмбска напісала на ахвяраванай Лявону Луцкевічу кніжцы "п. Лявону Луцкевічу, хадзячай энцыклапедыі Вільні, з падзякай, з пашанай і захапленнем". Праф. М. Ткачоў, будучы ў гасцях у Л. Луцкевіча, перагледзеў машынапіс "Вандровак" і сказаў: "Будзем друкаваць!" Прыязджала з Менска рэдактарка, якая ўзгадніла з аўтарам тэкст будучай кніжкі, і прафесійны фатограф – ён зрабіў цэлую серыю фатаздымкаў да кніжкі. Аднак пасля смерці М. Ткачова справа выдання "Вандровак" заглохла, машынапіс недзе згубіўся. І толькі ў 1997 г. у віленскім выдавецтве "Рунь" вырашылі выдаць "Вандроўкі", скарочаны варыянт. Ужо зусім хворы Л. Луцкевіч перагледзеў і правіў тэкст. Кніжка выйшла ў 1998 г. ужо пасля смерці аўтара.

"Партрэты віленчукоў" – другая тэма, якую распрацоўваў Лявон Луцкевіч. Ініцыятарам "партрэтаў" была Людвіка Войцік (пісьменьніца Зоська Верас). Гэта яна пачала збіраць весткі пра беларусаў Вільні, што працавалі на культурна-грамадскай ніве ды былі няслушна забытыя. Л. Луцкеввіч апрацаваў 50 нарысаў-партрэтаў віленчукоў. Акрэсленне "вілянчук" ён разумеў шырока – гэта былі не толькі тыя, хто нарадзіўся і пражыў усё, ці амаль усё жыццё ў Вільні, як кампазітар К. Галкоўскі, драматург Ф. Аляхновіч, Мікола і Хведар Ільяшэвічы ці тыя, хто, прыехаўшы ў Вільню, засталіся тут і актыўна ўдзельнічалі ў беларускім культурна-грамадскім жыцці, як Зоська Верас, кс. Адам Станкевіч, Станіслаў Станкевіч ("Кнігар") ды інш., – аднак і тыя, што жылі ў Вільні адносна коратка, але менавіта тут сфармаваліся як беларусы, знайшлі свой шлях у жыцці, як літаратуразнаўца Стась Станкевіч, паэтка Наталля Арсеннева, вучоны Барыс Кіт ды інш. "Партрэты" Лявона Луцкеввіча былі кароткія (3 старонкі машынапісу), што вызначалася іхнім прызначэннем – яны перадаваліся аўтарам па радыё "Свабода". Цяпер "Партрэты віленчукоў" дапрацоўвае, дапаўняе ўспамінамі розных людзей, матарыяламі са старых беларускіх часопісаў, а часта і ўласнымі ўспамінамі жонка Лявона Луцкевіча Галіна Войцік. У выдавецтве беларусаў Літвы "Рунь" выдадзена 11 "партрэтаў": "Лявон Луцкевіч", "Зоська Верас", "Аляксандр Коўш", Аляксандр Уласаў", "Пятро Сергіевіч", "Канстанцін Галкоўскі", "Янка Шутовіч", "Станіслаў Станкевіч", "Марыян Пецюкевіч", "Барыс Кіт", "Адам Станкевіч".

Ад 1944 г. была зачыненая ВБГ і хутка пасля гэтага зліквідаваны Беларускі музей ім. Івана Луцкевіча. Беларускае культурна-грамадскае жыццё ў Вільні замёрла на доўгія гады. Аднак беларуская інтэлігенцыя, якая ацалела пасля арыштаў 1939 і 1945-49 гг. ці вярнулася з лагераў, усё-ж нешта рабіла, збірала матарыялы, пісала ўспаміны, артыкулы, праўда, "у стол". І толькі ў 1988 г. узнікла магчымасць стварыць беларускую арганізацыю, гэта была "Сябрына" – клуб аматараў народнай творчасці. Лявон Луцкевіч браў рупны ўдзел у стварэнні "Сябрыны", хаця і не афішаваўся, каб не пашкодзіць справе. Ён быў таксама адным з ініцыятараў стварэння Таварыства беларускай культуры, якое першапачаткова было зарэгістраванае пры Літоўскім фондзе культуры. Ад 1990 г. ён быў сталым сакратаром і фактычным духоўным лідарам ТБК. У тым самым годзе ён бярэ на сябе беларускую праграму на Літоўскім радыё і быў да 1996 г. аўтарам, рэдактарам і дыктарам беларускай радыёперадачы "Беларускае слова на хвалях Літоўскага радыё" На працягу гэтых гадоў Лявон Луцкевіч выхаваў сабе замену – студэнтак катэдры беларусістыкі Віленскага педуніверсітэта Іну Бэйнар (Аляшкевіч) і Эдыту Грынюк (Шукевіч). Лявон Луцкевіч працаваў і карэспандэнтам радыё "Свабода", перадаваў "Весткі з Віленшчыны", "Ван-дроўкі па Вільні" і "Партрэты віленчукоў", браў удзел у беларускіх тэлеперадачах на Літоўскім тэлебачанні. Ён нямала зрабіў, дамагаючыся адкрыцця катэдры беларусістыкі ў педуніверсітэце і беларускай сярэдняй школе, якая сёня носіць імя Ф. Скарыны. Лявон Лууцкевіч шмат пісаў і публікаваўся ("ЛіМ", "Беларусь", "Мастацтва Беларусі", на беларускіх старонках віленскіх газетаў "Эхо Літвы" і "Kurier Wilenski"), кансультаваў арганізатараў выставаў на беларускія тэмы ў Наацыянальнай бібліятэцы імя Мажвідаса, пазычаў экспанаты са сваіх архіваў. Ён лічыўся экспертам у беларускіх пытаннях і да яго звярталіся па кансультацыю з літоўскага ўраду, сойму, дэпартаменту ў справах нацменшасцяў. Да яго, як калісці да Зоські Верас, прыязджалі незлічоныя госці, прыходзілі лісты з рознымі пытаннямі і праблемамі. І ён паказваў, адказваў, пазычаў многае з сваіх архіваў. Ён быў гасцінным і кантактным чалавекам. Хто толькі не пабываў у ягонай кватэры на вуліцы Архітэктараў у новым раёне Вільні Лаздінай!

Лёс адлічыў яму мала часу на актыўную працу, не даў здзейсніць шмат якіх планаў. Але апошнія шэсць гадоў актыўнай дзейнасці на ніве беларушчыны былі, мабыць, самымі шчаслівымі гадамі ягонага жыцця.

Лявон Луцкевіч памёр 28 ліпеня 1997 г.

На старажытных віленскіх могілках Росы, на г. зв. Літарацкай горцы, звярочвае на сябе ўвагу помнік Івану і Антону Луцкевічам. Дзве стэлы з белага мармуру з барэльефамі Івана і Антона быццам падпіраюць крыж з чырвонага граніту – сімвал мукаў і пакутаў. Тут, каля гэтага помніка, лёг на вечны адпачынак і Лявон Луцкевіч, "сын годны бацькі", як было напісана ў адным з некралогаў. На гэтай самай горцы магілы Казіміра Сваяка і ягонага брата Альбіна Стаповіча – пасла ў Польскі сойм, Лявона Вітан-Дубейкаўскага архітэктара і грамадскага дзеяча, драматурга Францішка Аляхновіча З Літарацкай горкі адкрываецца цудоўны від на Вільню, вежы касцёлаў і цэркваў, вежу Гедыміна і лясы на небасхіле, – від на наш старажытны горад, які Лявон Луцкевіч так любіў, добра ведаў і часткай гісторыі якога ён стаў.

*Віленчанка.*

# Гістарычны партрэт Вялікага Княства Літоўскага

Такую назву мае выстава, якая адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры. На ёй сабрана больш за 50 твораў партрэтнага жывапісу са збораў некалькіх беларускіх музеяў – гісторыі і культуры Беларусі, мастацкага, музея беларускага Палесся, што ў Пінску, Гарадзенскага дзяржаўнага гістарычна-археалагічнага музея. У выставе бяруць удзел Менскі абласны краязнаўчы музей, Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі, Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Упершыню у такой колькасці сабраны партрэты дзеячоў старажытнай гісторыі нашай Радзімы.



Выстава месціцца ў трох залах, якія ўмоўна можна назваць "Каралеўская", "Зала Радзівілаў" і "Скарбніца". У "Каралеўскай зале" экспануюцца палотны з выявамі каралёў Рэчы Паспалітай і Вялікіх князёў ВКЛ, у тым ліку партрэты Лева Сапегі (канцлера ВКЛ) і Канстанціна Астрожскага (гетмана ВКЛ). Тут жа – родавыя галерэі Завішаў і Вішнявецкіх са збору розных калекцый, а таксама партрэты асобаў духоўнага чыну.

У зале "Радзівілаў" знаходзяцца партрэты прадстаўнікоў гэтага роду і шляхціцаў з іншых сем'яў.

"Скарбніца" знаёміць гледача з рэліквіямі. Тут можна пабачыць Радзівілаўскую карту ВКЛ XVII стагоддзя, набытую на Лонданскім аўкцыёне і перададзеную ў дар Беларусі Антоніем Радзівілам (1915—1999). Вялікую цікавасць уяўляе карта ВКЛ Мікалая Радзівіла (Сіроткі). У гэтай жа зале змешчаны некаторыя дакументы XVI ст., звязаныя з імёнамі Канстанціна Астрожскага і Менскага старасты Крыштафа Завішы, а таксама матэрыялы навукова-інфармацыйнага характару – радаводы Радзівілаў, Завішаў, Вішнявецкіх, упершыню выкананых у беларускай версіі.

Выстава падалася мне вельмі цікавай, змястоўнай і надзвычай пазнавальнай, перш за ўсё таму, што не так ужо часта даецца нам магчымасць зазірнуць у гісторыю нашай Радзімы.

*Алена Цітавец, студэнтка БДУ культуры*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія: Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 10. 06. 2002 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 1106.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.